Народная Воля 4 ЧЭРВЕНЯ 1999 г.

Из первых уст

Михаил РУСЫЙ:

# "Экономика не уживается с экологией..."

*Все мы в душе — экологи. Но уверена: не многие из нас безболезненно откажутся от привычных благ цивилизации, часто наносящих вред экологии. За все приходится платить: своим здоровьем, здоровьем планеты, на которой живем. А оно уже изрядно расшатано. И оснований для беспокойства, особенно у жителей крупных городов, более чем достаточно. Однако если простым смертным порой и невдомек, чем они дышат и что пьют, то уж Михаилу Русому известно все до последней молекулы. Портфель министра природных ресурсов и окружающей среды достался ему почти пять лет назад. Надо признать, что с самого начала Русый проявил себя весьма компетентным руководителем.*

*В нем нет привычных "чиновничьих заморочек". Он всегда сам отвечает на телефонные звонки, не просит секретаря не соединять его с независимой прессой, отвечает даже на каверзные и, может быть, не совсем приятные вопросы.*

**— Михаил Иванович, в каком районе города Вы живете? Какова там экологическая обстановка?**

— Я живу в районе Комаровского рынка, на улице Веры Хоружей. Там, как, впрочем, и в целом по Минску, вполне нормальная обстановка. Лично мне очень нравится Уручье — это красивый во всех отношениях район. Рядом — лес, никаких проблем с путями сообщения... Хотя есть у нас, конечно, экологически неблагоприятные районы типа Шабанов. Возникают вопросы по "Керамину", где нужно предпринимать кардинальные меры вплоть до отселения людей. Испытывают определенный дискомфорт живущие около мясокомбината, птицефабрики имени Крупской. Совсем недавно, кстати, я с начальником специнспекции по воздуху обошел все эти дурнопахнущие места. Сейчас решаем, что будем делать...

**— 5 июня — Всемирный день окружающей среды, девиз которого "Наша Земля — наше будущее. Спасите ее!". Как будем спасать?**

— Решение о ежегодном проведении Всемирного дня окружающей среды было принято на Ассамблеи ООН в 1972 году. В Беларуси, помимо тяжелых последствий аварии на Чернобыльской АЭС, немало сложных экологических проблем общего характера. К большому сожалению, как промышленное так и сельскохозяйственное производство, а также обслуживающий сектор в основном базируется на технологиях, далеких от совершенства. А это в свою очередь дает достаточно высокую антропогенную нагрузку на окружающую среду в виде выбросов, сбросов и отходов производства. У нас пока слабо развита сеть предприятий по переработке, утилизации и захоронению отходов производства и потребления. Какой выход? Работаем. В этом направлении многое делается. Как результат наших усилий — значительное сокращение объемов загрязнения природной среды. Выбросы загрязняющих веществ в атмосферу сократились за последние десять лет почти втрое. Сбросы сточных вод — на 40%, в том числе загрязненных — более чем в десять раз, наполовину сократились объемы отходов. Хотя проблемы, не скрою, все-таки остались...

**— Существует ли в Беларуси экологическая милиция, и в каком случае имеет смысл туда обращаться?**

— Экологическая милиция функционирует во всех крупных городах и областных центрах. Она входит в состав органов внутренних дел, содержится за счет экологического налога. Надо заметить, что окупают они себя с лихвой. Обращаться к ним следует при любых обстоятельствах, касающихся экологических вопросов: по поводу рубки деревьев, мойки машин в неустановленных местах, загрязнения поверхностных и ливневых стоков, загазованности атмосферы, несанкционированных костров и свалок. В любом случае милиция приедет с проверкой.

**— Сколько денег из государственного бюджета приходится на наших экологов?**

— Откровенно говоря, основная масса денег поступает от экологического налога. В этом году мы в общей сложности получили порядка восьми триллионов рублей. Этих средств, естественно, мало на что хватает. Говорят, экономика с экологией должны уживаться. Не уживаются что-то... Хотя зарубежные эксперты, приезжающие в Беларусь, подчеркивают, что у нас ведется очень грамотная политика государства: имеющиеся средства в основном направляются на природоохранительные сооружения: водозаборы, различные очистительные сооружения.

**— Свалки — головная боль любого мегаполиса...**

— Президент по этому поводу уже всем накрутил хвосты... Нужно довольно серьезно браться за это дело. Недавно мы активно взялись за подготовку минполигонов бытовых отходов практически в каждой деревушке, не говоря уже о райцентрах. Только за прошлый год их было подготовлено порядка шести тысяч. Примерно пятьдесят процентов сельских советов наказали штрафами за ужасное состояние на свалках. Но не только местные власти должны следить за порядком в таких местах. От народа тоже многое зависит. Наши люди выбрасывают мусор куда попало! Представляете, сбрасывают мусор в одно озеро, а приезжают отдыхать на другое и возмущаются, почему здесь так грязно!..

**— Михаил Иванович, Ваши сотрудники взятки берут?**

— Думаю, что нет. Во всяком случае, ни по одному такому случаю я информации не имею. Если узнаю, что берут — головы полетят моментально.

**P.S.** ***В Министерстве природных ресурсов и окружающей среды с восьми до восьми, включая выходные, работает "горячая линия" — 220-66-91.***

**Марина КОКТЫШ.**

Чулі?

## Спецназ ад Маладога фронту

На мінулым тыдні паспяхова завяршыліся першыя ў Беларусі трохмесячныя курсы "Ды-джэяў Адраджэння", якія праводзіліся Маладым фронтам. "Семінарыстам" давялося прайсці праз інтэрактыўны трэнінг, шматлікія мазгавыя штурмы і сапраўдныя выпрабаванні ў жывой аўдыторыі. Зрэшты, галоўны фокус курсаў заключаўся нават не ў насычаным інфармацыйна-тэхнічным аспекце: трэнеры рабілі стаўку на спасціжэнне нацыянальнай ідэі — спалучэнне яркай, запамінальнай формы з духоўным зместам.

Як паведамілі ў прэс-службе Маладога фронту, пераможцы курсаў вызначаліся паводле рэйтынгу. Дванаццаць найлепшых удзельнікаў на святочным шоу-сходзе Маладога фронту атрымалі спецыяльныя сертыфікаты "Ды-джэй Адраджэння" і аднайменныя метадычныя зборнікі: цяпер для іх прадугледжаныя праграмы індывідуальнага навучання на лета і канчатковыя зборы ўвосень.

"Маладыя адраджэнцы" плануюць правесці паўторныя курсы, на гэты раз — для моладзі з рэгіёнаў. "Зараз мы рыхтуем мабільныя каманды для будучых рэформаў па ўсёй краіне, — гаворыць вядучы семінараў, старшыня Маладога фронту Павел Севярынец, — такія ды-джэі будуць падымаць моладзь на стварэнне новай Беларусі. А наш першы шоу-спецназ ужо прыступае да дзеяння. Сярод пераможцаў 18-гадовы паліглот Аляксей Шыркавец; зорка рэспубліканскага "Брэйн-рынгу", які збіраецца разгарнуць беларускамоўную Лігу інтэлектуальных гульняў, 15-гадовы вундэркінд Раман Ясеў; дызайнерка Дар'я Раткевіч — выдатніца БДЭУ на факультэце банкаўскай справы; 16-гадовы выпускнік мінскай школы №101 Віталь Зыблюк, які ўжо паспеў арганізаваць і правесці некалькі дыскатэк і рок-канцэртаў. Першае месца заняў 18-гадовы праграммайстар Анатоль Сухарукаў. Залішне казаць, што кожны з ды-джэяў валодае камп'ютэрам, як мінімум двума замежнымі мовамі, займаецца спортам і асабістай творчасцю і, вядома, хуткастэльна размаўляе па-беларуску...

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

Крымінал

## Злодзеі з банцікамі

Тое, што з падзеннем нораваў у грамадстве краіна апусцілася да крытычнай рысы, пацвярджаюць міліцэйскія зводкі, у якіх усё часцей фігуруюць дзеці. Перад самымі летнімі канікуламі ў Аршанскім раёне папаліся дзве вучаніцы 3 класа, якія спрабавалі абрабаваць чужую кватэру, куды залезлі праз незачыненыя балконныя дзверы.

Вельмі здзівіліся і аператыўнікі Браслаўскага РАУС, калі выйшлі на след злодзеяў, якія абакралі кафэ "Жар-птушка" у райцэнтры. Два сябрукі ва ўзросце 8 і 11 гадоў здолелі залезці ў памяшканне і вынесці адтуль прысмакаў на 25 млн. рублёў, а перад гэтым яшчэ абчысціць склад райбыткамбіната, дзе ўзялі сабе вуды, спальныя мяшкі, палатку.

**Уладзімір ШЫК.**

## Напрыканцы чэрвеня ў Мінску пройдуць некалькі міжнародных выстаў — "Бістро", "Піва", "Віны і напоі"

Выставачнае таварыства "Экспафорум" заканчвае падрыхтоўку да правядзення міжнародных выстаў "Бістро", "Піва" і "Віны і напоі", якія пройдуць у Мінску ў выставачным павільёне на праспекце Машэрава з 22 па 25 чэрвеня.

Міжнародная выстава тэхналогій і абсталявання для харчовай прамысловасці, прадпрыемстваў масавага харчавання і гандлю "Бістро" будзе праходзіць у Мінску ўжо ў 8-мы раз. У экспазіцыі будуць прадстаўлены абсталяванне для сістэм хуткага харчавання, паўфабрыкаты высокай ступені гатоўнасці, перапрацоўчыя міні-комплексы для харчовай прамысловасці, гандлёвае, халадзільнае і ўпаковачнае абсталяванне, сучасны дызайн кафэ, бараў, магазінаў і шмат што іншае.

Заяўкі на ўдзел у "Бістро-99" ужо прадставілі больш за 20 прадпрыемстваў з Беларусі, Украіны, а таксама беларускія прадстаўнікі шэрага буйных расійскіх вытворцаў. Паводле слоў дырэктара выставы Ірыны Кірпічовай, "Бістро" стала "прафесійнай выставай нумар адзін" для прадстаўнікоў галін fast food (хуткае харчаванне) і гандлю, у якой ужо некалькі гадоў працягваецца актыўны працэс пераабсталявання і мадэрнізацыі.

Сацыялагічнае апытанне, праведзенае ВТ "Экспафорум" падчас папярэдняй выставы "Бістро", паказала, што больш за палову ўдзельнікаў ацанілі яе ўзровень як "высокі" і "вельмі высокі"; больш за 70 працэнтаў экспанентаў палічылі, што ажыццявілі на выставе свае мэты. Па задуме арганізатараў, цяперашняя выстава павінна дапамагчы спецыялістам грамадскага харчавання і гандлёвых структур змяніць аблічча сваіх прадпрыемстваў, а таксама стыль гандлю і абслугоўвання.

У межах выставы Міністэрства гандлю рэспублікі правядзе семінар "Праблемы хуткага харчавання ў Беларусі", на якім плануецца абмеркаваць вытворчыя аспекты працы прадпрыемстваў хуткага харчавання, а таксама пытанні фінансавання і інвесціравання праектаў, звязаных з развіццём сетак хуткага харчавання ў гарадах рэспублікі.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

Стоп-кадр



*Вясковыя хлопцы.*

## Гродзенскія абласныя ўлады зацвердзілі план мерапрыемстваў па падрыхтоўцы сустрэчы трэцяга тысячагоддзя і 2000-годдзя хрысціянства

Гродзенскі аблвыканкам зацвердзіў план мерапрыемстваў па падрыхтоўцы сустрэчы трэцяга тысячагоддзя і святкаванні 2000-годдзя хрысціянства. Згодна з планам, у лютым 2000 года ў вобласці пройдуць урачысты сход грамадскасці і святочны канцэрт, прысвечаныя гэтым знамянальным датам. Падобныя мерапрыемствы пройдуць ва ўсіх гарадах і раёнах вобласці. На май 2000 года намечана правядзенне III рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур. Будуць наладжаны конкурсы дзіцячага малюнка "На парозе трэцяга тысячагоддзя", экалагічныя праекты на тэму "Горад, вёска. Трэцяе тысячагоддзе", выставы, "круглыя сталы", лекторыі, дабрачынныя і велікодныя мерапрыемствы для дзяцей-сірот, інвалідаў і ветэранаў. Для арганізацыі працы па падрыхтоўцы і святкаванні трэцяга тысячагоддзя і 2000-годдзя хрысціянства створаны аргкамітэт.

**Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.**

## У чарговы раз невядомыя апаганілі помнік вязням брэсцкага гета

У Брэсце ў чарговы раз апаганены помнік вязням Брэсцкага гета — невядомыя асобы крэйдай намалявалі на ім фашысцкую свастыку. Летась, у канцы лета, на помніку падобныя "выбрыкі" ўжо былі, прычым намаляваныя незмываемай фарбай з балончыка. Тады знайшоўся нават "выканаўца" — 15-гадовы школьнік, пры вобыску дома ў якога знайшлі нямала прадметаў, якія пацвярджалі яго захапленне фашысцкім вучэннем. Аднак крымінальную справу па гэтым факце ўзбуджаць не сталі, а неўзабаве і наогул забыліся пра гнюсны ўчынак.

Кіраўнік навукова-асветніцкага цэнтра "Халакост" Аркадзь Бляхер лічыць, што і на гэты раз апаганенне ўчынена кімсьці з падлеткаў, але гэта не азначае, што на дадзены факт зноў можна махнуць рукой. "У мінулы раз мне сказалі ў міліцыі, што ўрон архітэктуры не нанесены, таму няма чаго ўзнімаць шум. Цяпер я маю намер быць больш настойлівым і абавязкова запатрабую ўзбуджэння крымінальнай справы. Гэта абуральны факт, які патрабуе грамадскага асуджэння", — заявіў А.Бляхер у размове з карэспандэнтам БелаПАН.

Першы знак у памяць пра вязняў брэсцкага гета быў пастаўлены на месцы гібелі яўрэяў адразу пасля вайны роднымі загінуўшых. Пазней яго знеслі, паколькі на месцы гета вялося будаўніцтва жылога дома. У 1992 годзе — у дзень 50-годдзя знішчэння гета — быў устаноўлены цяперашні знак. Паводле слоў Аркадзя Бляхера, яго апаганьваюць штодзённа: людзі вытапталі сцежку і ходзяць, літаральна пераступаючы праз памятную пліту. Пакуль невядома, наколькі сур'ёзна паставяцца да здарэння брэсцкія ўлады. Вядома толькі, што супрацоўнікі міліцыі выязджалі да помніка і зафіксавалі факт апаганьвання.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Конна-трактарны ўчастак

Здавалася б, навошта стабільнаму і моцнаму прадпрыемству "Круляўшчызнанафтапрадукт" заводзіць у сваёй гаспадарцы трох коней? У параўнанні з іншымі ў глыбінцы заробкі большыя і выплачваюцца рэгулярна. Ды толькі дырэктар нафтабазы В.Шыпко прытрымліваецца думкі, што пры цяперашняй дарагоўлі людзям будзе лягчэй пражыць, маючы дадатковы даход ад асабістых участкаў і агародаў. Для дапамогі сваім працаўнікам у іх апрацоўцы і набылі дадаткова ў апошні час яшчэ тры трактары і нават камбайн для абмалоту прыватных надзелаў.

Свабоднай зямлі ў ваколіцах гэтага буйнога чыгуначнага вузла не хапае, і таму прыйшлося дамаўляцца з адным з суседніх калгасаў Докшыцкага раёна аб арэндзе дадатковай плошчы. Тут спадзяюцца, што і сёлета вырасце на ім неблагі ўраджай зерневых і зноў, як і мінулым летам, кожны работнік прадпрыемства атрымае па тоне збожжа.

**Уладзімір ШЫМОЎСКІ.**

## Неспакойна ў дзіцячым доме

Не паспелі абжыцца першыя групы дзетак у казённым бацькоўскім доме, як чатырох выхаванцаў дзіцячага дома сямейнага тыпу з гарпасёлка Друя прыйшлося паставіць на ўлік у камісіі па справах непаўналетніх пры Браслаўскім райвыканкаме. Гэтая ўстанова — першая на Віцебшчыне, бо раней брацікаў і сястрычак прыходзілася разлучаць і накіроўваць па розных сіроцкіх дамах. Многае прыйшлося перарабляць, каб на базе былога прафтэхвучылішча стварыць прымальныя ўмовы для вучобы і пражывання дзяцей, якія дагэтуль бачылі ў жыцці толькі дрэнныя яго праявы. Цяжкае, відаць, было ў многіх дзяцінства, калі шэраг выхаванцаў працягвае парушаць дысцыпліну і нават кідацца наўцёкі. Многія зарэкамендавалі сябе ў пасёлку грубіянамі і хуліганамі.

Вось і турбуюцца мясцовыя жыхары, што будзе, калі поўнасцю атрымаюць тут прытулак усе 250 выхаванцаў ва ўзросце ад 3 да 18 гадоў, ад большасці якіх фактычна адмовіліся бацькі-алкаголікі. Між іншым у вобласці цяпер перапоўненыя яшчэ 25 спецыялізаваных школ-інтэрнатаў і дзіцячых дамоў. Жудасна, але ўсяго па краіне ўжо больш за 26 тысяч дзяцей-сірот выхоўваюцца без бацькоўскай ласкі. Такога ў нас не назіралася нават пасля вайны.

**Уладзімір ШЫК.**

## Чакаецца, што ў чэрвені ўрад прыме пастанову, якая будзе ўстанаўліваць новы тэрмін заканчэння абароту імянных прыватызацыйных чэкаў "маёмасць"

Як стала вядома БелаПАН з крыніцы ў беларускім урадзе, падрыхтаваны праект пастановы, якая ўстанаўлівае новы тэрмін заканчэння абароту імянных прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць" — 30 чэрвеня 2002 года. Пагашэнне нявыкарыстаных ваўчараў, згодна з дакументам, пачнецца 1 ліпеня 2002 года і працягнецца да 20 чэрвеня 2004 года. Да 1 ліпеня 2002 года Міністэрства па кіраванні дзяржмаёмасцю і прыватызацыі павінна падрыхтаваць спіс рэфармаванай маёмасці, неабходнай для пагашэння нявыкарыстаных чэкаў.

Спецыялісты выказваюць заклапочанасць слабым ходам працэсу прыватызацыі ў краіне. З пачатку прыватызацыі ў 1991 годзе і па 1999 год у краіне рэфармавана ўсяго 3.112 дзяржаўных аб'ектаў; з іх 1.038 аб'ектаў пераўтвораны ў акцыянерныя таварыствы.

Чакаецца, што гэтая пастанова будзе прынята ў першай палове чэрвеня. Тады ж у аддзяленні Ашчаднага банка павінен паступіць новы спіс акцыянерных таварыстваў (па некаторай інфармацыі, у гэтым спісе — больш за 60 АТ), каштоўныя паперы якіх абменьваюцца на чэкі "Маёмасць". Акрамя таго, Міндзяржмаёмасць плануе ў бліжэйшай будучыні правесці чарговы чэкавы аўкцыён, выставіўшы на продаж 15 прадпрыемстваў, якія ўжо прадаваліся на чэкавых аўкцыёнах і ў аддзяленнях Ашчаднага банка.

**Наталля КУЛАГІНА.**

## Мінскі завод колавых цягачоў плануе выпусціць у гэтым годзе доследны ўзор новага самазвала

У гэтым годзе Мінскі завод колавых цягачоў (МЗКЦ) плануе выпусціць доследны ўзор новага самазвала грузападымальнасцю 30 тон, разлічанага на работу ва ўмовах бездарожжа. Першапачаткова на новы самазвал мяркуецца ўстанаўліваць кабіну аўтамабіляў "МАЗ". У далейшым МЗКЦ збіраецца прыступіць да выпуску самазвалаў з уласнай кабінай. Плануецца, што ў гэтай мадэлі кабіна размесціцца над рухавіком; на першыя ўзоры машыны будзе ўстаноўлены прамы кузаў. Адным з асноўных спажыўцоў новага самазвала павінна стаць Расія. Магчымая таксама пастаўка гэтых аўтамабіляў у краіны далёкага замежжа.

**Аляксандр ПАПОВІЧ, БелаПАН.**

## Маладая беларуская піяністка Вольга Сцяжко стала лаўрэатам першай прэміі на міжнародным конкурсе ў Парыжы

Вучаніца восьмага класа Рэспубліканскага музычнага каледжа Вольга Сцяжко (клас педагога Алега Крымера) стала лаўрэатам першай прэміі на міжнародным фартэпіянным конкурсе імя Мікалая Рубінштэйна ў Парыжы. Беларуская піяністка выканала творы П.Чайкоўскага, С.Рахманінава, Ф.Ліста, І.С.Баха, В.Моцарта. Асабліва ўразіла французаў вытанчанае, чулае выкананне твора французскага кампазітара Клода Дэбюсі. Як лаўрэату Вользе была прадастаўлена магчымасць бясплатна ўдзельнічаць у майстар-класах. Гэта ўжо не першая творчая перамога маладой выканаўцы. Тры гады таму Вольга першынствавала на міжнародным юнацкім конкурсе піяністаў імя Ф.Шапэна ў Польшчы. Тады яна атрымала запрашэнне ад славутай польскай піяністкі Галіны Чэрні-Стэфаньскай на ўдзел у майстар-класах у Польшчы. А ў 1997 годзе Вольга Сцяжко заняла другое месца на міжнародным конкурсе піяністаў імя выдатнага беларускага педагога па фартэпіяна, прафесара Ірыны Цвятаевай у Мінску.

**Вера КРОЗ.**

## Навошта адключылі электрычнасць?

У штаб-кватэры Беларускага народнага фронту — буйнейшай палітычнай арганізацыі — была адключана электрычнасць мясцовай жыллёва-эксплуатацыйнай службай быццам за неплацяжы. Прэс-сакратар БНФ Валерый Буйвал сказаў у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН, што аплаты робяцца рэгулярна, і, калі запазычанасць ёсць, то яна зусім невялікая. На думку прэс-сакратара, прычына адключэння ў іншым — улады такім чынам адрэагавалі на стварэнне незалежнай камісіі па расследаванні трагедыі на станцыі метро "Няміга", члены якой перакананыя, што ў здарэнні вінаватыя ўлады краіны і горада, якія не забяспечылі звычайных умоў бяспекі падчас свята.

Валерый Буйвал нагадаў, што папярэдняе адключэнне электрычнасці ў офісе БНФ адбылося напачатку кампаніі па выбарах прэзідэнта. І падобныя, паводле яго слоў, "дробныя паскудствы" з боку ўлад сталі ўжо сістэмай у яе адносінах з апазіцыяй. Некалькі дзён таму падобная спроба адключэння электрычнасці была зроблена ў рэдакцыі газеты "Навіны". Праца штаб-кватэры БНФ сур'ёзна парушана: не працуе факс, усе камп'ютэры, іншая аргтэхніка.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

Трагедия

## ...На том свете нужны невесты. А самые красивые девушки живут в Беларуси

***Две девушки — Лена Насонова и Марина Коношенок — из более чем пятидесяти погибших 30 мая в переходе метро учились в одной и той же школе — СШ № 191 города Минска. Эту же школу несколько лет назад закончила еще одна жертва трагедии — 22-летняя Аня Бречко.***

Трое погибших — это слишком много для одной школы. Но по роковой случайности три девчушки из одной школы оказались в тот злополучный воскресный вечер на ступенях метрополитена.

...1 июня в 191-й школе непривычно тихо. Кроме вахтера никого нет. В 9-х классах отменили первый экзамен. Все ушли на похороны.

...17-летняя Лена Насонова. Кем она была для родителей, для младшего брата, для подруг, учителей и одноклассников? Маминой гордостью, папиной радостью, любимой сестричкой. Настоящей подругой. Красивой девочкой, по которой тайно сохли не только ребята в школе, но и мальчишки со двора. Умницей, способной девочкой. Она хорошо знала английский, закончила языковые курсы при Доме офицеров, весь год занималась с репетитором, хотела поступать в экономический университет.

*Молодые люди приносят цветы и зажигают свечи на месте гибели людей в подземном переходе станции метро "Немига".*

В тот страшный день на праздник пива она поехала с другом — мальчишкой из параллельного класса. Он зашел за ней вечером, обещал Лениной маме, что вернутся не позднее половины одиннадцатого. Мама не возражала и даже сама нарядила Лену в красивую дорогую кофточку. Два дня дочь без перерыва занималась, готовилась к первому школьному экзамену — белорусской литературе. Если бы знать тогда, что Лена уходит навсегда...

Около одиннадцати в квартире Насоновых раздался звонок в дверь. "Лена вернулась", — решила мама и пошла открывать дверь. На площадке стоял друг Лены с отцом. Сбивчиво, дрожащим голосом он стал рассказывать, что произошло на "Немиге"...

Началась гроза. Лена вместе с ним побежала в метро, хотела спрятаться от сильного ливня. Она с детства боялась грома. Боялась смерти. Когда в Уручье в соседней школе погиб мальчик, долго спала при свете... Они упали, бежавшие за ними вслед — тоже. На них — сверху. Друг потерял сознание, а когда пришел в себя, Лену увозила "скорая". Он сам нес ее к машине...

Родители нашли ее только в понедельник, в двенадцать часов дня в минском городском морге. Ночью среди погибших Лены не было, они бросились искать ее по всем клиникам Минска. Тогда ночью родители просто не хотели, отказывались верить, что среди задавленных в метро может оказаться их ненаглядная доченька. Но правда оказалась страшной...

Лена лежала в гробу, как невеста. В красивом белом платье. В Центральном универмаге Минска подвенечные платья для погибших девушек выдавали бесплатно. Власти сдержали свое слово. Все расходы по организации похорон они взяли на себя. Но разве может это хоть чуточку облегчить родительское горе? Смягчить вину городских властей за плохо продуманную организацию праздника?..

Ненаглядное родительское счастье выносили под рыдания собравшихся людей. Вся дорога от подъезда к ритуальному транспорту утопала в цветах и венках. Вся школа, весь микрорайон провожал Лену.

Родители отказались от оркестра, Лену отпевал батюшка. Она лежала в белоснежном платье, лицо у нее было красивое и спокойное. Его не коснулись чьи-то каблуки и ботинки. Лену просто раздавила толпа. Она умерла от травмы грудной клетки и живота.

"...Вспоминаю: солнце, ворвавшееся в класс, и наши дети, готовые идти на последний звонок, — рассказывала мне Надежда Александровна Игнатенко, мама лучшей Лениной подруги. — На том празднике прощания со школой Лена хорошо выступала. Я и запомнила ее такой. Сейчас будем искать запись, чтобы еще раз посмотреть на Лену".

Выпускной вечер в 191-й школе Минска назначен на 26 июня. К предстоящему торжеству многие готовились заранее. Некоторые девочки купили выпускные платья. И большинство — черные. Лена Насонова тоже купила наряд. Черное бархатное платье...

30 мая в жуткой давке на ступеньках метро погибло 6 девочек Первомайского района Минска. 1 июня хоронили пятерых из них. Дом на улице Никифорова, где жила студентка энергетического техникума Ира Шевелева, узнать было легко. Около дома собралась бесчисленная толпа людей.

Здесь в одной квартире стояло сразу два гроба. 18-летняя Ирина пошла на праздник пива со своей двоюродной сестричкой — восьмиклассницей 191-й школы Мариной Коношенок. И сестер смяла толпа, стремительно бросившая их в метро на скользкие ступеньки перехода.

Марину воспитывала бабушка. Когда девчушка не пришла в воскресенье вечером домой, не беспокоилась, решила, что внучка ночует у Иры. А утром узнала страшное. Под внезапным майским ливнем погибли сразу две ее внучки...

В комнате не хватало места для венков и цветов. Становилось не по себе при виде стольких молодых людей. 14 летние подростки, почти еще дети, прощались с Мариной. Ребята постарше не могли поверить, что на занятиях в техникуме больше не увидят отличницу Ирочку Шевелеву. Все вспоминают и говорят только хорошее, а плохого и быть не могло. Они так мало прожили на этой грешной земле — две невинные детские души.

Обезумели от горя бабушка и родители Иры. Смогут ли они простить смерть своих детей? Смогут ли найти ответ на одинединственный вопрос: за что? Почему это произошло с их ненаглядными девочками?

Кто-то на похоронах сказал, что в страшной давке в метро не случайно погибло так много девушек. На войне в Таджикистане, Афганистане, Чечне погибло много молодых ребят. И на том свете им нужны невесты. А самые красивые девушки мира живут в Беларуси...

...Марину и Ирочку хоронили в Смолевичском районе, откуда родом бабушка девочек. Их сверстники держали свечи и молились за упокой. Им остались только воспоминания об однокласснице и однокурснице. Бабушке и родителям — еще и чувство вины, что не уберегли, не спасли девочек. Не избавиться им от этого чувства, хотя взрослые разумом и понимают, что нет их вины в том, что Ирочка и Марина оказались 30-го вечером на ступенях роковой лестницы, что бессильны были хрупкие девочки перед фатальными обстоятельствами...

**Мария ЭЙСМОНТ.**

SOS!

## Условия вроде бы созданы, но и преград хватает

На сегодняшний день в стране зарегистрировано 31 товарищество собственников совместного домовладения. 11 таких организаций создано в Минске, 8 — в Бресте, 2 — в Молодечно, по одной — в Гродно, Витебске и других городах.

В республике созданы условия для реализации Закона Республики Беларусь "О совместном домовладении". Советом Министров утверждены типовые учредительные документы для создания и деятельности товариществ собственников, а также типовой договор о совместном домовладении. Существование товариществ предусмотрено Гражданским и Жилищным кодексами Республики Беларусь.

Закон Республики Беларусь "О бюджете на 1999 год" определил источники дотирования товариществ. На дотации может рассчитывать само объединение жильцов, а также негосударственные обслуживающие организации, которых только в Минске насчитывается уже около десятка.

Товарищества собственников по-прежнему сталкиваются с проблемами регистрации, оформления технических паспортов на здания и актов землепользования. По мнению участников республиканского семинара, состоявшегося недавно в Минжилкомхозе, это снижает привлекательность товарищества как одной из форм управления недвижимым имуществом совместного домовладения. Например, сегодня не могут зарегистрироваться в качестве юридических лиц по меньшей мере 6 товариществ в Минске и в Витебске. Хотя регистрирующие органы и не отказывают, но с момента принятия решений о их создании прошло уже более двух месяцев.

Участники семинара рекомендуют всем заинтересованным организациям активизировать работу по реализации Закона Республики Беларусь "О совместном домовладении". Для этого необходимо провести собрания собственников помещений в домах, где приватизировано больше половины квартир, создавать товарищества до ввода в эксплуатацию строящихся и реконструируемых домов. Создаваемым товариществам нужна помощь в оформлении регистрационных документов, а также технических паспортов и актов землепользования. Должна быть ускорена процедура регистрации. Помогать в этой работе и координировать ее могут специальные группы, а также жилищно-коммунальные организации, которым рекомендовано заключать договоры с товариществами на полное или частичное техническое обслуживание.

Министерство жилищно-коммунального хозяйства направило рекомендации участников семинара облисполкомам и Минскому горисполкому.

**Отдел по связям с общественностью проекта МФК "Малая приватизация в Беларуси".**

